# ЧАСОПІСЫ ў снежні

ПОЛЫМЯ БЕЛАРУСЬ МАЛАДОСЦЬ

## «ПОЛЫМЯ»

Часопіс адкрываецца раманам-памфлетам Ільі Гурскага «Чужы хлеб».

У раздзеле паэзіі змешчаны новыя вершы Еўдакіі Лось, Рыгора Барадуліна, Юркі Голуба, Казіміра Камейшы, Генадзя Кляўко.

Увазе чытачоў прапаноўваюцца новыя раздзелы з кнігі ўспамінаў былога начальніка штаба Першай Мінскай партызанскай брыгады М. М. Джагарава «Чэрвеньская зона», якая падрыхтавана да друку ў выдавецтве «Беларусь» пад назвай «Партызанскія вогнішчы».

Раздзел публіцыстыкі прадстаўлен артыкулам Рыгора Булацкага «Ленінскія газеты пра Беларусь».

З артыкулам «Вяртаючы народу мінулыя стагоддзі» — аб сучасным стане нашага краязнаўства — выступае ў раздзеле «Навука» Леанід Аляксееў.

У раздзеле «У свеце мастацтва» Барыс Бур'ян расказвае пра вядучага артыста Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Анатоля Шэлега.

Узаемасувязям беларускай літаратуры з літаратурай суседняга літоўскага народа прысвяціў свой артыкул Адам Мальдзіс «Дружба даўняя, плённая», які змешчаны ў раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства».

У часопісе надрукаваны таксама рэцэнзіі Р. Шкрабы на зборнік апавяданняў М. Вышынскага «Вокны ўначы», Г. Кісялёва — на раман Ул. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», Я. Рубіна — на сацыяльна-дэмаграфічны нарыс А. Ракава «Насельніцтва БССР».

Матэрыялы да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў змясціў у раздзеле «Культура мовы» Міхась Клышка.

Заканчваецца часопіс раздзелам «Хроніка».

## «БЕЛАРУСЬ»

Часопіс, як заўсёды, шырока знаёміць чытачоў з жыццём рэспублікі.

Вялікай нарадзе земляробаў БССР прысвечаны перадавы артыкул. Аб справах палескіх хлебаробаў расказвае ў сваіх нататках «Сейбітаўцы» журналіст М. Пятровіч.

Новыя звесткі аб стварэнні «Искры» атрымаюць чытачы пры знаёмстве з артыкулам П. Ткачова «З «Искры»...».

Васіль Хорсун дзеліцца сваімі ўражаннямі аб паездцы ў В'етнамскую Дэмакратычную Рэспубліку ў падарожных замалёўках «У краіне апаленага лотаса».

Паэзія ў часопісе прадстаўлена вершамі Петруся Броўкі, Антона Бялевіча, Алеся Ставера, Казіміра Камейшы, Яўгена Крупенькі, Мечыслава Шаховіча.

Часопіс друкуе апавяданне Івана Навуменкі «Куліна з Чарнігава», камедыю ў адной дзеі Алеся Пальчэўскага «Рэўнасць».

Творчыя партрэты народных артыстаў СССР Аляксандры Клімавай і Яўгена Палосіна падае ў сваім артыкуле «Таленты — паплечнікі» Георгій Колас.

«Адзін дзень на «Беларусьфільме» — так назваў свой рэпартаж В. Салаўёў пра беларускіх кінематаграфістаў.

Артыкул І. Курбекі і М. Пратасевіча «Жыве тут сэрца паэта» пазнаёміць чытачоў з Літаратурным музеем Якуба Коласа.

Акрамя гэтага, часопіс змяшчае перадпавагоднія рэпартажы, парады ўрача, гумар.

## «МАЛАДОСЦЬ»

12 нумар надзвычай багаты на паэзію. З новымі вершамі выступаюць Раман Тармола, Данута Бічэль-Загнетава, Анатоль Сербантовіч, Мікола Федзюковіч, Сымон Блатун, Анатоль Груша, Анатоль Малюк.

Часопіс друкуе заканчэнне аповесці Клаўдзіі Каліны «Забароненая песня», «Палескія абразкі» Уладзіміра Аляхновіча, фантастычнае апавяданне Навума Цыпіса «Марсіянін».

Разнастайны і багаты раздзел публіцыстыкі. Аляксандр Чарняк у артыкуле «Таварыш па ссылцы» расказвае пра ўдзельніка польскага сацыял-дэмакратычнага руху 80-х гадоў Івана Лукіча Прамінскага, які ў 1897 годзе быў высланы ва Усходнюю Сібір, у сяло Шушанскае, дзе ў той час знаходзіўся У. І. Ленін.

Цікавыя звесткі пра філатэлістычную Ленініяну паведамляе Леў Коласаў.

Аспірант факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна Алег Слука змясціў каштоўны матэрыял аб першых маладзёжных газетах Беларусі.

Пад рубрыкай «З далёкіх і блізкіх дарог» надрукавана эсэ Уладзіміра Караткевіча «Званы ў прадонннях азёр».

Пашырыць уяўленне чытачоў аб творчым шляху народнага песняра Беларусі Якуба Коласа артыкул М. Жыгоцкага «Паэма пра рэвалюцыю».

У раздзеле публіцыстыкі змешчаны таксама рэцэнзіі Я. Бараноўскага «Подых Кастрычніка» (на кнігу С. Пачаніна «У навальнічным 18-м»), Я. Івановіча «Парады камсамольцу-актывісту» (на кнігу Л. Ціханава «Школьны камсамольскі важак»), «Незабыўнае» Л. Царанкова (на кнігу ўспамінаў Станіслава Шушкевіча «Вяртанне ў маладосць»), М. Модэля «Пазіцыя крытыка» (на кнігу Анатоля Сабалеўскага «Беларуская савецкая драма»), М. Прашковіча «Пуцявінамі гісторыі» (на кнігу Сцяпана Александровіча «Гісторыя і сучаснасць»).

Часопіс друкуе заканчэнне дарожных нататкаў Леаніда Прокшы «У краіне пірамід». У нумары змешчаны артыкул Віктара Мартынава і Арнольда Міхневіча «Беларуская этымалогія» (старонкі слоўніка).

Ёсць у часопісе раздзелы спорту, вясёлых кур'ёзаў, аматарам шахмат.

**Анатоль ГРУША**

(«Маладосць»)

■ ■ ■

Сонца зморача ўпала на ельнік
І патухла ў гушчы галін,
Небасхіл зарумяніла хмельным
Дасляваючым сокам калін.

Цішыня. А такімі начамі
Збажына спаланяе абшар

Дзікім водарам спеласці, снамі,
Што падобны да жнівеньскіх
мар.

Мабыць, сейбіт руплівы пад
лівень
Жменю думак згубіў на раллі,
Што ўзышлі ўспамінамі жніўня
І у замяць гадоў паплылі...

**Генадзь КЛЯЎКО**

(«Полымя»)

### СНЕГ

Снег... Над Рудзеншчынай
нізіннай
Кружацца белыя матылі,
Міне паўгадзіны —
і мяккай працінай
Прыкрыты агрэхі ўсе на раллі,

І на душы—быццам нейкае
свята,
Што з неба звалілася сапраўды,

Глядзяць святочна платы і хаты,
У хустках белых стаяць сады.

Гадай — дзе поле, а дзе
дарога...
Хоць прыхарошванняў
не люблю,
А ўсё ж прыемна,
хоць і нядоўга,
Бачыць чыстай усю зямлю.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

(«Полымя»)

### УШАЦКІ ЭЦЮД

Веюць ласкай
Вятры заходнія.
На яблыні майскай
Шпак заходзіцца.
Сплылі, як крыўды,
Зялёныя крыгі.
Шпак з асалодаю
Сушыць крылы.
Вяз зацвітае
Цветам спалоханым.
Дом на ўсе дзверы
Уздыхнуў з палёгкаю.
Сцежка да кладак
Травой пазначана.
З вясною,
мама!

Дзень добры,
Ушаччына!
Тапіліся кусты
Густога лазняка,
І плыў туман густы,
І Сож ад нас знікаў.

Спяшаўся дзень, хоць плач,
Для нас апошні дзень.
Дваім — кароткі плашч,
Дваім — прывідны цень.

Вясенні змрок вачэй,
Брывей круты разлёт.
І лёд звінеў званчэй,
Вясенні, сіні лёд.

А парк — стары мудрэц—
Чаканым лісцем пах,
Салодкі ледзянец
Качала на зубах...

Вясёлы крыгаход.
Маўклівы лёдастаў.
І сплыў апошні лёд,
І ледзянец растаў...

■ ■ ■

Ты, Гомель, хлопец свой,
Нікому не кажы
Пра золкі ранак той
На ўскрыжаным Сажы.

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА**

(«Маладосць»)

■ ■ ■

Я свае бяссонныя ночы
З кута ў кут,
з кута ў кут
Перакрочу.
Пераверу,
Перамеру
Мерачку жыцця
не адну.
Сяброўцы параджу.
Дзіцятка пагладжу.
Перагутару ў думках
з раднёю.
Прамаўчу са сваёй раўнёю.
Паганю бяссонніцу пасвіць
Хоць на жоўтым лубіне...
Сцішыцца яна
на руках у любага...

**Сымон БЛАТУН**

(«Маладосць»)

■ ■ ■

Апусцелі ад стрэлаў калчаны,
Ціха коні пайшлі на пагост...
І не плакалі хлопцы — крычалі,
Як пад кулі ішлі ў поўны рост.

Вусны смерцю халодна сцяты,
І вачэй палымнее агонь...
Правяралася вернасць сцягу,
Як барвовілі раны яго.

Я шкадую тугімі начамі,
Што да часу таго не дарос,
Як не плакалі хлопцы — крычалі
І пад кулі ішлі ў роўны рост.

**Яўген КРУПЕНЬКА**

(«Беларусь»)

### КАСМАНАЎТ ДА ЛЕНІНА ІДЗЕ

З хваляваннем тайным
і трывогай,
Той, якой не выкажаш нідзе,
Крышачку узрушаны і строгі
Касманаўт да Леніна ідзе.
У вайсковай форме ці
цывільны,
Мы яго не ведаем пакуль,
Проста ён ідзе
Грамадзянінам,
Як прыходзяць людзі адусюль,
Каб запомніць дарагія рысы
Ільіча,
каб потым расказаць
Землякам аб чалавеку блізкім
І паклон зямны яму аддаць.
І таму
нястрыманым патокам
Паўнаводнай і жывой ракі
Ціха-ціха супыняюць крокі
Беларусы і сібіракі.

Рускія, грузіны і літоўцы, —
І сялянства, і рабочы клас:
Ільіча імя святое — сонца,
І зімою саграває нас!
Азарае шлях у наша заўтра
Светачам нягаснучых ідэй.
У людскім патоку
касманаўта
Не адрозніш ад усіх людзей.
У вайсковай форме ці
ў цывільным
Ён ідзе,
каб Ільічу сказаць,
Што яму,
зямлі савецкай сыну,
Даручылі неба штурмаваць,
Ён адправіцца да зорак
заўтра,
Карабель надзейна павядзе.
І таму, як кожны, перад
стартам
На паклон да Леніна ідзе.

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ**

(«Маладосць»)

■ ■ ■

У глухамані бэзавых кустоў,
паблізу ад дзяржаўнае граніцы,
не бачна статку, не чуваць касцоў,
не празвініць залётная сініца.
Спакой і ціша — як пасля
дажджу,
грымотна-нечаканага, начнога.
Нібы ў прыроды вынялі душу,
нібы не існуе нічога...
Маўчыць перастаялая трава,
маўчыць сухое, жнівеньскае
неба...
Спакой і ціша... Трудна утрываць
каб не ўскрыкнуць чалавеку
нема...
Вось тут,
вось тут,
дзе курчыцца быльнёг,—
спустошанае селішча было!
А там,
вунь там,
дзе млее кураслеп,—
след партызан дыміўся на расе...

Спакой і ціша...
І—як даўні сон:
цень даўгалыгі... выбух!.. енк
гартанны...
прыглушаны, канае стогн...
працяжнае, жахлівае рыданне!..
. . . . . . . . . . . .
Ні помніка.
Ні ўзгорка.
Ні крыжа...
Сустрэўшы справядлівую адплату,
тут неабудна з той вайны ляжаць
чужой зямлі забытыя салдаты.
Вось тут,
вось тут
яны адкрылі бой.
А там,
вунь там —
у жвір упалі ніцма...
Спакой і ціша...
Ціша і спакой!
Як перад ўсеабдымнай
навальніцай.

Малюнак на шмуцтытуле мастака В. Шаранговіча. («Маладосць»).

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**

(«Маладосць»)

■ ■ ■

Легенд і паданняў паўпрэды
І сведкі апошняй вайны,
На славе і турка, і шведа,
Як кропкі, стаяць курганы.
Загоена даўняя рана,
Забыта былая бяда,
А ў касцы прабітай
гартанна
Гаворыць рачная вада.

**Мечыслаў ШАХОВІЧ**

(«Беларусь»)

### ЛЕНІН НА СУБОТНІКУ

Ён жмурыць ад сонца вочы,
Яму ўсміхаецца ранак...
Хвалюецца кожны рабочы:
«Хаця б не адкрылася рана!»

Звініць красавік у блакіце,
Сталіца гудзе галасамі.
Просяць яго:
— Адпачніце,
Таварыш Ленін.
Мы — самі.

У вас жа справы багата—
Клопаты ўсёй дзяржавы.
А Ленін зірнуў хітравата:
— І гэта — дзяржаўная справа...

### Іван Навуменка. КУЛІНА З ЧАРНІГАВА. Апавяданне

(«Беларусь»)

У НАШАЙ радні найвышэй усіх узнялася цётка Акуліна, важная, шыракатварая, з кольцамі і пярсцёнкамі, бадай, на кожным з дзесяці парослых рудымі валасінкамі пальцаў. Гаварылі напачатку, што выйшла яна замуж за вельмі вялікага чалавека. Зрэшты высветлілася, што вялікі чалавек рабіў бухгалтарам у Чарнігаве, праўда, не звычайным, а галоўным, ды яшчэ на заводзе, дзе выраблялі розныя віны і напіткі.

Астатняя радня—вясковая. Дзядзькі, цёткі, пляменнікі, родныя і стрыечныя бацькавы і матчыны браты і сёстры жылі або ў нашай вёсцы, або ў двух суседніх—Аляксеевічах і Крышанах. Але і яны патроху выходзілі ў людзі. Малодшы бацькаў брат застаўся на звыштэрміновай службе ў кавалерыйскім палку, які стаяў у Клінцах, а самы меншы матчын, Карней, або Карнюш, як мы яго называлі, вывучыўся на шафёра і з гонарам праязджаў на сваім газагенератары праз нашу вёску.

Ад нас да Аляксеевіч—пяць вёрст, а да Крышаноў—тры. Тое, што шматлікая бацькава і матчына радня жыла паблізу—мела немалыя перавагі. Я не памятаю, калі будавалі нам хату, але з расказаў маці ведаю, што ў той дзень, як у лясніцтве быў нарэшце аплочаны лес, з'ехаліся васемнаццаць фурманак, і родзічы і сваякі вывезлі бярвенні адным махам. Так што даволі прасторная, на дзве палавіны хата, калі не лічыць платы за лес, каштавала бацьку два пуды жытняй мукі, з якой нагналі самагону, і аднаго барана-валуха, якога зарэзалі на пачастунак.

Жылі мы, як і ўсе, не горш і не лепш, часам нават галаднавата. Бацька з першага года ўступіў у калгас, рабіў там конюхам, брыгадзірам, паляводам. Амаль штогод нараджаліся новыя браты і сёстры, і к таму часу, калі я пачаў сёе-тое разумець на гэтым свеце, іх было ўжо сем. Працадні ў калгасе тым часам не павялічваліся, а меншалі, так што і бульбу пачалі даваць у абрэз—большая яе палавіна ішла на нарыхтоўку—і гэта прымусіла бацьку кінуць калгас і зрабіцца адыходнікам. У мястэчку будавалі розныя склады, памяшканні, і бацька рабіў там цесляром. Зарабляў жывую капейку, адмахваючы па дзесяць вёрст туды і назад і прыносячы тры разы на тыдзень па дзве буханкі пад пахай.

Першы трактар, першы аўтамабіль, першае, яшчэ нямое кіно, якое прывезлі ў нашу вёску,—усё гэта было на маіх вачах. Сорамна прызнавацца, але цягнік я ўбачыў, калі мне было гадоў дзесяць. Бацька ўзяў мяне з сабой у мястэчка, і я нават спалохаўся, убачыўшы гэтае жалезнае страшыдла.

Цётка Куліна прыехала да нас у госці якраз у той год, калі разбіўся самалёт «Максім Горкі», а на пабудову гэтакага ж новага ў нашай чатырохкласнай школе, што размяшчалася ў хаце крывога Амелькі, сабіралі па дзесяць капеек. Цётку разам з яе даволі старавататым, падобным да цыгана мужам, прывёз на рэсорнай таратайцы местачковы балагол Беня Фунт, і ўся наша вёска замёрла ад захаплення. Кулінін муж насіў чорны шарсцяны касцюм, на нагах меў бліскучыя даўганосыя туфлі, а на галаве—яшчэ нябачаны ў нашай мясцовасці капялюш колеру варонняга крыла. Пра цётку і гаварыць няма чаго. Яна ўся шастала шаўкамі, і ад яе гэтак пахла, нібы ў сваім кулаку яна заціснула ўсе водары вакольнага поля і лесу.

Беня Фунт скардзіўся вяскоўцам, што балагольства хутка кіне, бо вельмі прыціскаюць падаткамі, а Кулінін муж, шчоўкаючы сярэбраным партсігарам, частаваў яго гарадскімі папяросамі.

Цётку Куліну частавалі, як царыцу. Яна прыехала пасля сёмухі, калі старая бульба скончылася, а новая яшчэ не вырасла. Мы самі харчаваліся ў гэты час зялёным пер'ем цыбулі ды шчаўем, але дзеля цёткі былі зняты з гарышча вэнджанае сцягенца і мяшэчак з жоўтым ёлкім салам—апошнія багацці, што ашчаджаліся для сенакоснай і жніўнай пары. Прыехала ўся навакольная радня, і таксама не з пустымі рукамі.

Тры дні гудзеў узбуджаны галасамі і песнямі наш панадворак. А потым былі яшчэ пярэзвы, пачастункі ў другіх—далёкіх і блізкіх—сваякоў. Ніхто не хацеў перад гарадской цёткай ударыць тварам у гразь.

Ад'язджаючы, цётка ўсіх запрашала да сябе ў госці. Беня Фунт, якога дзеля гэтага выпадку спецыяльна выклікалі з мястэчка, ледзь рукі не адарваў, грузячы ў таратайку чамаданы і кашы з яйкамі, маслам, сушанымі грыбамі.

Цётка Куліна яшчэ два разы—з дзядзькам і без дзядзькі—прыязджала ў вёску. Яе хараша прымалі, частавалі, хоць і не гэтак урачыста, як першы раз.

Нарэшце настала і наша чарга паехаць у Чарнігаў да цёткі Куліны. Вядома, не проста ў госці. Мы сталі жыць так, што было не да гасцей. Браты і сёстры падымаліся, шыбавалі ў школу, з кожным годам патрабуючы ўсё болей харчу, вопраткі, абутку. З харчам было неяк прасцей. Бульба ў хаце ўсё-такі не звадзілася. Яна не кепска радзіла на лясных шаразёмах, выручаючы не адну толькі нашу сям'ю. Але бывалі і такія месяцы, што, апрача бульбы і агуркоў, мы болей нічога не елі. Як я зайздросціў тым са сваіх сяброў, чые бацькі іншы раз прыносілі з крамы, з Аляксеевіч, па кілаграму срабрыстай камсы ці рудаватых, зляжалых селядцоў! Мой бацька рэдка калі дастаўляў такія прысмакі, ашчаджаючы капейку на рэчы болей сур'ёзныя. Ды і цяжка было накарміць кілаграмам селядцоў нашу вялікую сям'ю.

У нашага суседа Нічыпара Куліды, які гэтак жа, як і мой бацька, рабіў у мястэчку, дзяцей было двое—сын Кірыла і дачка Надзя, і дзякуючы гэтаму Куліды жылі намнога лепей, чым мы. Кірыла прыносіў у школу то тарана, то мочаны яблык, то скібку хлеба, намазаны самым сапраўдным маслам, а я не заўсёды меў нават іржаны акраец у сваёй палатнянай, пафарбаванай у чорны колер сумцы. Не панясеш жа ў школу вараную бульбу!..

Так ці іначай, але мы жылі, хоць жыццё з кожным годам прымала новыя абрысы і кірункі. Лён, каноплі, жыта на сваім прысядзібным участку перасталі сеяць зусім, займаючы ўсю плошчу бульбай ды загончыкамі ячменю і проса. Наш сваяк Атрахім рабіў леснікам, і гэтае сваяцтва прыносіла сям'і пэўную карысць. Дзякуючы Атрахіму вялікую дзялянку ў лесе—вёрст за восем ад вёскі—мы патаемна ад чужога вока таксама засаджвалі бульбай.

Адным словам, жыццё выкіравала ў такую каляіну, што кросны ў нашай хаце пастунова зусім зваліся. Яшчэ на маёй памяці маці іх засноўвала на дванаццаць губак, абвіваючы нітамі ўсе сцены, грукаючы пабіліцамі і бёрдамі праз усю зіму.

Я любіў той час, калі маці бяліла палотны. Іх рассцілалі на росным лузе ці на атаве, і па доўгай палатнянай дарожцы можна было бегчы ва ўвесь дух, не баючыся пракалоць аб іржэўнік ногі. З гэтага палатна восенню і зімой маці шыла нам кашулі і штаны.

Але лён на працадні не давалі, і палотнаў не стала. Трэба было дбаць пра крамнае. Вось чаму ў такім прывабным выглядзе вынік перад нашай сям'ёй вобраз цёткі Куліны, якая па-ранейшаму жыла ў Чарнігаве, хоць да нас ужо даўнавата не прыязджала. У школу хадзілі два хлопцы і дзве дзяўчынкі, і колькі ім трэба было чаравік, штаноў, сукенак. Дзеля гэтага бацька і ашчаджаў грошы. На местачковы магазін у якіх сяды-тады выкідвалі міткаль і корт, разлічваць не прыходзілася: там у такія дні стаялі страшэнныя чэргі.

Можа цэлы год ішло абмеркаванне паездкі да цёткі Куліны. Маці насабірала трохі масла, насыпала ў мяшэчкі сушаных грыбоў, ягад, гарбузікаў.

Гэта былі бясплатныя дары для цёткі, бо на крам і вопратку мы хацелі пазычыць у яе грошы. Грошай, нягледзячы на бацькаву ашчаднасць, у нас насабіралася вельмі мала. І палавіну з іх трэба было аддаць на білеты, бо бацька наважыўся узяць у Чарнігаў і мяне. Задача была ў тым, каб пазычыць сот шэсць у цёткі Куліны і накупляць за іх краму, вопраткі і чаравікаў.

У апошнія дні перад выездам бацька раптам завагаўся. Куліна даводзілася раднёй па маці, і на гэтым грунце ў сям'і вынікла жорсткая сварка.

— Не веру, што яна пазычыць грошай!—крычаў бацька.—Тры разы прыязджала, столькі дабра ёй напхнулі, дык хоць бы пасылачку ў адказ... Жыве ж бяздзетная. Лёду ў яе зімой не дастанеш...

Маці згаджалася і не згаджалася. Не магла яна паверыць, каб цётка Куліна, родная кроў і сямейная гордасць, не памагла нам у цяжкую часіну. Бацька, аднак, глядзеў на жыццё болей цвяроза. З Аляксеевіч у Чарнігаве таксама жыў чалавек, які нам ніякай раднёй не даводзіўся, але з якім бацька разам хадзіў на прызыў. У той жа вечар бацька адскочыў у Аляксеевічы і ўзяў адрас Макара Крываножкі—так звалі яго знаёмага.

І вось мы паехалі. Божа мой, колькі ўражанняў, перажыванняў, незабыўных успамінаў дала мне гэтая паездка! І сёння, калі мінула з таго далёкага часу трыццаць гадоў, да драбязей я памятаю, як бралі мы ў чыгуначнай касе білеты, як садзіліся ў вагон, як ехаў разам з намі ў купэ стары, маршчыністы гарманіст з драўлянай нагой, які ўсю дарогу іграў на абшарпаным гармоніку вальс «На сопках Маньчжурыі», як праносіліся міма вокан вагона тэлеграфныя ступы, раз'езды, такія ж, як і ў нас, беразнякі і хвойнікі. Я ў дарозе нават крыху расчараваўся: у вагоне і на станцыях мітусіліся такія ж самыя, як і ў нашай вёсцы людзі, і нічога незвычайнага я не ўбачыў у іхніх абліччах.

Чарнігаў адкрыўся белакаменнымі высокімі гмахамі, бясконцымі садамі і паркамі, што стаялі ў першай асенняй пазалоце. Грук, жалезны ляскат трамваяў, гудкі аўтамабіляў мяне адразу аглушылі. Мы прыехалі раніцай, маглі б адразу падацца да цёткі Куліны, але бацька разумеў, відаць, што азначае для мяне першы мой прыезд у горад. Ён хацеў, каб горад мне спадабаўся. Таму хоць грошай у нас было і мала, бацька завёў мяне ў сталовую, заказаў сабе і мне па баршчу і катлеце, купіў аж тры бутэлькі сітра.

Бацька як у ваду глядзеў: цётка Куліна сустрэла нас так, што горш не прыдумаеш. Як толькі мы са сваім няўклюдным драўляным чамаданам пераступілі парог яе пафарбаванага ў жоўты колер, пад жалезным дахам дома, свет для нас пачарнеў. Мала сказаць, што цётка прыняла нас не гасцінна. Яна глядзела на нас як на ворагаў: падціснула губы, надзьмулася і, пасадзіўшы на табурэтах у зашклёнай верандзе, нават не спытаўшы пра здароўе маці і іншых нашых сваякоў, злосна грукала посудам на кухні. Бацька разгубіўся, як дзіця. Пабялеў з твару, слова не мог вымавіць.

Нарэшце, штосьці прамармытаўшы, ён выскачыў за дзверы. Я застаўся адзін.

Праз гадзіну цётка стала трохі ласкавейшай. Дала мне кубак кампоту і дазволіла пагуляць па садзе. Сад быў такі ж вялікі, як і дом з белымі аканіцамі, на дрэвах яшчэ віселі антонаўкі, вялізныя грушы, якіх у сваёй вёсцы я ніколі не бачыў. Але мне было не да яблык і не да любавання прыгожым цётчыным домам, у якім было можа дзесяць пакояў. Мяне душылі слёзы. Першы раз у жыцці бачыў я горкую няўдзячнасць. Мы гэтак шчыра сустракалі цётку Куліну, гэтак хацелі ёй дагадзіць. То чаму ж так хутка яна ўсё забыла? Чым мы перад ёю гэтак правініліся?.. Адказу на гэтыя пытанні, якія ўзнікалі самі сабой, не было.

Да вечара цётка апомнілася. Прыйшоў са службы яе чарнатвары дзядзька, яны аб нечым пашапталіся і да таго часу, калі вярнуўся бацька, стол на кухні быў засланы белым абрусам, на ім паявіліся сякія-такія закускі і выпіўка. Бацька быў, аднак, негаваркі, піў і еў мала.

Спаць нам паслалі ў нейкім цёмным пакоі: бацьку на скрыпучым драўляным ложку, мне—на канапцы. Пра пазыку бацька нават не заікнуўся.

Назаўтра мы ўсталі досвіткам, калі цётка з дзядзькам яшчэ храплі на сваіх пухавіках. Нават не памыўшыся, выйшлі на двор, затым—на вуліцу.

— Не нудзіся сын,—нейкім незнаёмым ломкім голасам сказаў бацька.—Яшчэ не перавяліся на свеце добрыя людзі. Макар Крываножка абяцаў выручыць. Сам пазычыць, а нам дасць грошай...

Мы занялі з бацькам чаргу ля магазіна наўсцяж засаджанай дрэвамі вуліцы, і гадзіны праз тры, калі горад загаманіў і загрукаў ва ўсю моц, дасталі на дваіх дзесяць метраў прыгожага, у белую крапінку міткалю і яшчэ дзесяць—моцнага чорнага корту. У другі раз бацька стаў у чаргу адзін—грошай на дваіх усё адно не хапала.

У поўдзень, несучы пад пахамі ёмістыя пакункі, мы рушылі да цёткі Куліны. Бацька ішоў вясёлы—трыццаць метраў міткалю і корту—не жарты. Каб яшчэ купіць пары тры чаравікаў ды хоць дзве ватоўкі, то можна смела ехаць дадому.

Але нас падпільноўвала нечаканасць. Цётчын дом быў замкнуты. Мы прасядзелі доўга—гадзіны дзве—але ніхто не з'яўляўся. У бацькавых руках раптам апынуўся сагнуты цвік, ён ім шварганўў пару разоў у шчыліне замка, і дзверы расчыніліся. Наш драўляны чамадан стаяў на верандзе нераспакаваны. Бацька выставіў на стол слоікі з маслам, мяшэчкі з грыбамі і ягадамі. Усміхнуўшыся, дастаў з кішэні кашалёк і палажыў на стол скамечаную дзесятку...

— Няхай спажываюць нэпманы праклятыя...

Тым жа самым сагнутым цвіком бацька замкнуў дзверы, і мы пайшлі начаваць да Макара Крываножкі.

**Раман ТАРМОЛА**

(«Маладосць»)

### РАЗМОВА З МЕНШЫМ СЫНАМ

— Ад чаго пабялелі губы
У матулі маёй — Беларусі!
— Ад таго, што сын чарначубы
Белым-белым з вайны вярнуўся...

— А куды ўсе выцеклі слёзы
У матулі маёй — Беларусі!
— На магілы пад кожнай
бярозай,
Дзе ні крочу—ля іх спынюся...

— А чаму падаўжэлі ночы
Для матулі маёй — Беларусі!
— А таму, што заплюшчу вочы—
Ад іх выбухаў зноў прачнуся...

— Дык чаму ж засталося добрым
Сэрца маці маёй—Беларусі!
— Бо сыночак ёсць меншы дома
І ён вырасці добрым мусіць...

**Казімір КАМЕЙША**

(«Полымя»)

### БАГІ

У шэрай наднямонскай вёсцы
недзе
Жыў дзядзька,
невядомы багамаз.
Ён маляваў багоў —
сваіх суседзяў.
Жылі багі,
падобныя на нас.
Яны жылі,
сваю зямлю аралі,
Асілкаў племя,
племя маладых.
Плыты жагналі доўгімі баграмі.
Адзіным богам Нёман быў для іх.
Буслам на ліпы ўсцягвалі бароны,
Не забывалі
хлебны пах зямлі.
Нібы ў барах дрымучых,
у барoдах
Дасюль гудуць завеі і чмялі.

## «НЕМАН» № 12

У дванаццатым нумары з празаічных твораў надрукаваны апавяданне Міколы Капыловіча «Хлеб» (пераклад М. Татура), Уладзіміра Караткевіча «Каўчэг» (пераклад Н. Кісліка) і заканчэнне рамана Эдуарда Скобелева «Крокі за тваёй сцяной».

Паэзія прадстаўлена вершамі Ніла Гілевіча (пераклад І. Ласкова, А. Астроўскага, А. Шасцінскага), А. Шарапава і М. Янчанкі.

З артыкулам аб праблемах выхавання моладзі — «Молада-зелена» выступае Ул. Ліпскі. У часопісе надрукаваны нарысы А. Белашэева «Шчаслівага плавання, «Героі Брэста»!, А. Каралёва «Надзя», К. Аляксандрава «Аднойчы ўлетку».

Успамінамі пра М. Ф. Гікалу дзеліцца дачка яго — Н. Чыжова; тут жа змешчаны некалькі пісьмаў бацькі да яе.

М. Кядышка, працягваючы раней апублікаваныя ўспаміны, расказвае аб жудасных фашысцкіх канцлагерах — «Усе кругі пекла».

Пад рубрыкай «Мастацтва» змешчаны артыкул А. Бутакова «Старонкі тэатральнай Ленініяны».

Крытыку складаюць артыкулы Е. Ленсу пра асаблівасці рамантызму Янкі Купалы ў дарэвалюцыйны перыяд — «З зямлёй і небам звязвае ніць» і рэцэнзіі М. Гіля — на зборнік «Імя Леніна». Ул. Юрэвіча — на нарысы аб Грэцыі А. Кобец-Філімонавай «У каралеўстве... але не казачным», Р. Баландзіна — на зборнік артыкулаў «Ахова прыроды». В. Бензара — на кнігу А. Золатава «Праблема Тунгускай катастрофы».

